### Нямецкі ўрад—ізноў „адлажыў на пасьля“ справу перагавораў з Польшчай.

Орган нямецкіх сацыялістаў „Наперад“ абураецца на тое, што нямецкі ўрад — пад націскам правіцы (нацыяналістаў абшарнікаў) ізноў адлажыў разгляд справы ўзнаўленьня перагавораў з Польшчай у справе гаспадарчага трактату. Ужо нямецкі ўрад быццам пастанавіў — паведаміць нямецкага пасла ў Варшаве, каб запрапанаваў польскаму ўраду безадкладнае распачацьце перагавораў. Усё было ўжо падрыхтавана—для канчальнай пастановы ўраду. Але—у апошні мамэнт міністры нацыяналісты ізноў — зьнялі з чаргі справу, якая цягнецца ўжо тры гады.

### Справа заграгічнай пазыкі Літве.

У Лёндане сядзіць літоўскі генарал, пасланы ўрадам дзеля заключэньня пазыкі. Пазыку мае даць Англія, ці англійскія банкі. Але банкі трэбуюць, каб літоўскі ўрад даў за пазыку так званыя „гаранты“, гэта-ж значыць папросту—„заставіў“ ім, пакінуў у іх руках пэўныя вартасьці — з дзяржаўных маемасьцяў ці даходаў Літвы. Перагаворы быццам ужо падыйшлі да канца, толькі літоўскі ўрад не згаджаецца заставіць Англіі—даходы з мытаў ды транзыту, добра разумеючы, што гэтым ён сам кладзе рашуча цяжкую англійскую руку на ўсю заграгічную—гаспадарчую і іншую—палітыку Літвы.—Бо-ж заставіўшы (аддаўшы ў „застаў“, ці „залог“) мытныя ды транзытныя даходы Англіі, Літва—пад націскам падвойным: ня толькі палітычным, але і фінансава-гаспадарчым — змушана будзе ў першую чаргу вырашыць справу транзыту шляхом Немана—дзеля павялічэньня транзытных даходаў, чаго, ведама-ж, будуць дамагацца англійскія банкіры, пазычыўшыя грошы Літве. А гэта—ясны шлях да змушэньня Літвы да згоды з Польшчай. А гэта, ведама, цягне за сабой—адмову ад Вільні, ад думкі аб „Вялікай Літве“ і д. п.,—чым усьцяж туманяць галовы літоўскаму народу захапіўшыя ўладу ў краі літоўскія фашысты, адцягваючы яго ўвагу ад яго цяжкога лёсу ды бяздольля.

Што Англія за ўсялякую цану імкнецца да таго, каб пагадзіць Літву з Польшчай, а мо' навет—кінуць Польшчу на Літву—ў разе рашучага апору Літвы, аб гэтым шмат пісаліся ў прэсе. „Кур. Варш.“ даведаўся навет, быццам і цяпер літоўскаму генаралу Зенкавічыўсу ў Лёндане рашуча заяўлена, што пазыка ня будзе забясьпечана Літве, пакуль літоўскі ўрад ня зьменіць свае становішча адносна да Польшчы.

### Унутранае палажэньне ў Літве.

Рыжская прэса дае суровае, але праўдзівае, асьвятленьне пануючых палітычных стасункаў ды агульнага гаспадарчага палажэньня ў падбітай фашызмам Літве. Урад усе ніяк ня можа рашыцца аддаць урэшце-ж на „народнае галасаваньне“ свой новы праект канстытуцыі. А гэта—ясна сьведчыць, што — міма пануючага на ўсей тэрыторыі краю ваеннага палажэньня, шалеючай нячувана жорсткай цэнзуры і надзвычайных паўнамоцтваў для адміністрацыі—ўрад усьцяж не пачувае сябе даволі сільным дый зусім ня ўвераны ў тым, што літоўскі народ будзе галасаваць па яго загаду...

Барацьба з апазіцыяй усе больш робіцца цяжэй, а гэта значыць, што апазіцыя ў краі расьце... У працягу 10 месяцаў урад гэтых „таўтінінкаў“, папросту—фашыстаў,— ня здолеў прыцягнуць да сябе ніякаіх сымпатыяў. Панаваньне ў краі „загадаў прэзыдэнта“ замест нармальнай заканадаўчай працы разагнанага парляманту — зрабіла немагчымым абсалютна нікае паразуменьне між урадавай групай і апазіцыяй, якая складае вялізарную большасьць паслоў. Праект новай канстытуцыі, які ўводзіць замест парляментарнага ўраду, урад, назначаны прэзыдэнтам ды адказны перад ім-жа, канчальна парваў усялякую сувязь фашыстаўскай групы з арганізаванымі партыямі краю. Парваны ўсе магчымасьці кампрамісу. Усялякі кампраміс з парлямантам адкідае цалком перадусім фактычна маючая ўсю ўладу ў краі вайсковая група, у руках якой Сьметона ды Вальдэмарас зьяўляюцца толькі лялькамі, якія круцяцца дый гавораць, як ім прыкажа павадыр гэтай вайсковай групы, які фактычна—на свой рыск і страх, але, як кажуць, на англійскія грошы,—зрабіў пераварот.

Гэта палітычна фатальная сітуацыя аслажняецца яшчэ страшэнным гаспадарчым і фінансавым крызісам. Літве закрыты замежны (англійскі) крэдыт, пакуль яе ўрад—„ня высьвятліць сваю праграму ў вонкавай палітыцы“, гэта значыць — ня вырашыць пытаньня аб стасунках з Польшчай. Але—душачыся пад цяжкім англійскім „прэсам“, дамагаючымся паразуменьня з Польшчай, з аднаго боку—Літва, з другога боку, пляново націскаецца нямецкім урадам, каб ні за якую цану ня йшоў на гэта паразуменьне з Польшчай, адначасна трэбуючы амаль не адмовы з боку Літвы ад Кляйпэды,—у кожным разе—значных уступак там нямецкаму панаваньню. Літоўскі ўрад круціцца на ўсе бакі, але ўсьцяж што далей то больш руйнуючы край... Раззлаваны апорам яго ў справе Кляйпэды нямецкі ўрад зачыніў толькі што зусім граніцу для ўвозу ў Нямеччыну літоўскага хлеба ды быдла, задаўшы гэтым цяжкі ўдар літоўскай краёвай гаспадарцы...

Наагул, стасункі ў Літве зрабіліся настолькі цяжкімі дый так шпарка пагаршаюцца ўсьцяж, што—калі ня будзе якой рашучай перамены. дык — павінна наступіць катастрофа.., Як яна пойдзе, ці шляхом унутранага выбуху, ці неяк прыйдзе звонку, цяжка сказаць...

### „Вільня—сталіца Літвы“—ня вычыркнута з літоўскай канстытуцыі...

Урадавае Літоўскае Агенцтва афіцыяльна запярэчвае вестку, паданую францускай прэсай, быццам літоўскі ўрад—пад націскам англійскай і францускай дыпляматыі — згадзіўся вычыркнуць у сваім праекце новай канстытуцыі Літоўскай Рэспублікі той артыкул, які кажа аб — Вільні, як сталіцы Літвы... Літоўскі народ, галасуючы ў справе гэтай канстытуцыі, мае „вырашыць“ сам гэтую справу... на паперы...

Адначасна літоўскае агенцтва запярэчвае і таму, быццам англійскі і францускі паслы націскаюць на літоўскі ўрад, каб той— узяў назад сваю скаргу на польскія гвалты, паданую ў Лігу Народаў...

### „Надзвычайныя паўнамоцтвы“ для старостаў у Літве.

Урад літоўскіх фашыстаў надзяліў сваіх „начальнікаў паветаў“ — надзвычайнымі паўнамоцтвамі—для барацьбы з узрастаючай апазіцыйнасьцяй проці ўраду шырокіх сялянскіх масаў...

### Апраўданьне забойцы Петлюры Шварцбарда.

У парыжскім судзе ў працягу шмат дзён ішоў працэс аб забойстве нейкім Шварцбардам ведамага „атамана Украіны“ Петлюры, які, здаецца, у паразуменьні з марш. Пілсудскім меў намер даканаць „незалежнасьці Украіны“—ў фэдэрацыі з Польшчай. Як ведама, падобную-ж думку меў марш. Пілсудскі адносна да Беларусі, пазыскаўшы сабе ведамага „бацьку Балаховіча“. Як ведама, абодва „атаманы“ — ўкраінскі ды беларускі, апрача ўсяго іншага, уславіліся—жыдоўскімі пагромамі на Украіне і Беларусі. Водгукам гэтых пагромаў быццам і зьявілася забойства Петлюры ў Парыжу абвінавачаным Шварцбардам. Ён даводзіў на судзе, што памсьціўся за тысячы забітых ды замучаных яго радакоў ды крэўных на Украіне. З свайго боку, пэўныя колы ўкраінскай эміграцыі, блізкія за забітага Петлюры, цьвердзяць, што забойства „атамана“ было арганізавана праціўнікамі палянафільскай палітыкі Петлюры, які—ад часу здабыцьця ізноў улады ў Польшчы марш. Пілсудскім—мог, можа, ізноў адыйраць нейкую ролю ў гісторыі Украіны... Дык быццам Шварцбард быў выкарыстаны гэтымі коламі дзеля—„ўхіленьня Петлюры.

Суд, пасьля доўгага разгляду справы, у часе якой высьветлілася запраўды-ж жудасны абраз „пагромных часоў“ на Украіне, зьвязаных неяк з імем Петлюры—,вынес забойцы—апраўдальны прысуд.

Гэты праўдны апраўдальны для забойцы прысуд францускага суду прысяжных („суду народнага сумленьня“, як называюць суд прысяжных) зьяўляецца—пэўна-ж палітычным абвінавальным прысудам для забітага Петлюры.

### Павадыр францускіх радыкал-сацыялістаў выйшаў з партыі.

Раскол сярод партыі францускіх „радыкал сацыялістаў“, гэтай, як бачым, пэўне-ж больш буржуазнай, як сацыялістычнай партыі, здабыўшай большасьць на апошніх выбарах у парлямант, усьцяж выяўляецца. Пасьля пастановы апошняга зьезду партыі выйшаў з яе складу адзін з галоўных павадыроў—Франклін дэ-Буйен, злажыўшы адначасна і абавязкі старшыні парлямацкай камісіі для заграгічных справаў. Ен заявіў у прэсе, што пакідае партыю дзеля таго, што яе зьезд высказаўся проці „нацыянальнай еднасьці“, гэта значыць прасьцей—проці саюзу з правіцай — нацыяналістамі, але — за паразуменьне з сацыялістамі.

Ен заявіў, што ня можа цяпер быць у „паразуменьні налева“, бо сацыялісты цяпер стаяць за... безадкладную эвакуацыю Надрэніі і за далучэньне Аўстрыі да Нямеччыны. Бо-ж гэта для Францыі — сьмяротная небясьпека нябольш-няменш, як—новай вайны. Дык сумленьне не дазваляе яму аставацца ў партыі, якая зачыняе вочы на гэтую небясьпеку. Ен хоча быць вольным, каб працаваць для нацыі проці Інтэрнацыяналу. На месца старшыні заграгічнай камісіі парляманту мае быць выбраны замест гэтага „радыкал сацыяліста“—сацыяліст, праўда, — вельмі правы—Поль (Паваўл) Бонкур.

### Ізноў спроба паўстаньня ў Гішпаніі.

Дыктатарскія „жонды“ ген. дэ-Рывэры, ня гледзячы на старшэнныя рэпрэсіі, усьцяж выклікаюць паўстанчыя выбухі з боку трацячага цярплівасьць народу. Ня глядзячы на шчыльную цэнзуру ў краі, францускія крыніцы даведаліся — аб новым выбуху паўстаньня ў тэй-жа найбольш рэвалюцыйна настроенай Каталеніі, якой насяленьне, ня лічучы сябе навет гішпанцамі, усьцяж дамагаецца—ня толькі аўтаноміі, але і—поўнай незалежнасьці ад Гішпаніі... Праўдзівасьць вестак аб паўстаньні пацьвярджаецца вострымі ваеннымі мерамі францускіх уладаў на гішпанскай (каталенскай) граніцы...

### Камэдыя „парляманту“ ў Гішпаніі.

Як ведама, гішпанскі дыктатар генарал Прыма дэ-Рывэра, які разагнаў некалькі гадоў таму гішпанскі парлямант, скасаваўшы ўсялякае народнае прадстаўніцтва ў краі, цяпер склікаў замест парляманту, нейкую пародыю на яго. Новы гішпанскі „парлямант“ складаецца ня з выбраных насяленьнем паслоў, але з прадстаўнікоў розных установаў, прафэсіянальных арганізацыяў і г. д., якія фактычна пераважна зьяўляюцца назначанымі ці „намечанымі для выбару“ ўладай. І вось, гэты „парлямант“ цяпер толькі распараў працу. Адчыніўшы ўрачыста першае паседжаньне, старшыня гэтага „нацыянальнага сабраньня“, таксама—ня выбраны апошнім, але назначаны дыктатарам, заявіў у сваей прамове, што цэлы даўгі шэраг „паслоў“ адмовіліся ад сваіх „мандатаў“. Перадусім цалком байкатавала „парлямант“ Прыма дэ-Рывэры—работніцкая партыя. Пасьля старшыня заявіў, што „паслом“ ня трэба апрацоўваць наказу (рэгуляміну) для працы ў гэтым „Сойме“ — бо гэткі ўжо напісаны для іх урадам. Трэба толькі слухаць ды спаўняць гатовыя „правілы для паслоў“. У гэтай справе узьнялася дыскусія. Некаторыя „паслы“ казалі, што „рэгулямін“ павінна апрацаваць для сябе само Сабраньне. Дарма старшыня „заклікаў да парадку“ аратараў—яны не здаваліся. Тады ўстаў сам генарал дэ-Рывэра, які заявіў рашуча—„па-ваеннаму“,—што ўсе гэтыя гутаркі ды спрэчкі аб „рэгуляміне“—бясплодныя: „правілы“ ёсьць гатовыя, дык—трэба іх спаўняць. Вось, запраўдны ідэал фашызму.

### Паўстаньні ў Мэксыцы ня спыняюцца.

Паўстаньні, арганізаваныя ці то амэрыканскімі агентамі ці ваяўнічым клірам, які ўсьцяж вядзе барацьбу ды падбурае насяленьне — каб адабраць назад канфіскаваныя сацыялістычным ўрадам царкоўныя землі — на карысьць зямельнай рэформы,—у Мэксыцы, ня спыняюцца. Апошні раз атрады паўстанцаў напалі 24-га кастрычніка на ўрадавыя войскі пад самай сталіцай Мэксыкі, прычыніўшы ім вялікія страты. Урадавыя войскі змушаны былі пакінуць займаныя пазіцыі. Камандзір урадавых войскаў ген. Агвірэс ледзь унёс жыцьцё.

### Цікаўны канфлікт Амэрыкі з Англіяй у Абісініі.

Трэба спадзявацца цікаўнага канфлікту паміж наймацнейшымі імпэрыялістычнымі дзяржавамі сьвету—Амэрыкай і Англіяй—у Абісініі.

Справа—у тым, што абісінскі ўрад мае падпісаць умову з групай амэрыканскіх капіталістаў—на вялізарныя работы—будаваньня грэблі праз Ніл (вялікая рака, ад якой залежыць усе землябробства ў Абісініі, Судане, Эгіпце). Грэбля гэта мае затрымліваць ваду ў рацы, дый у народленых каналах — на пэрыяд засухі. Абісінія ёсьць незалежнай дзяржавай, сябрам Лігі Нацыяў. Але... толькі вось Англія з Італіяй, амаль ня выціснуўшы Францыю,—падзялілі гэтую дзяржаву „на пасы сваіх уплываў“. Англія лічыць, што наагул... уся рака Ніл, гэта—яе „ўласнасьць“, бо—бачыце,—з Абісініі цячэ Ніл уніз—у цалком ужо адабраны Англіяй ад Эгіпту, Судан, пасьля—у „напалову — англійскі „Эгіпет,—дзе англійцы маюць свае „вялізарныя інтэрэсы“. Дзеля таго ўсім Нілам павінны распараджацца англійцы. А што на тым-жа Ніле апынулася—у яго вярхавінах—неяк Абісінія, гэта ўжо яе няшчасьце. Мы памятаем, што ўжо няраз Абісінія зьвярталася з скаргамі ў Лігу Нацыяў на Англію і Італію, але — ведама-ж, нічога з гэтых скаргаў ня выйшла. З Лігай Англія лёгка спраўляецца, але цяпер павінна будзе памерыцца сіламі з такім волатам, які—мацнейшы за яе самую— з Амэрыкай.

Пакуль-што Англія націскае на абісінскі ўрад, каб—кінула думку аб умове з амэрыканскім капіталам. Але, калі з гэтага нічога ня выйдзе, абісінскі ўрад будзе ўпорным, тады прыдзецца Англіі мець дачыненьне ўжо з Амэрыкай...

### Нацыянальнае адраджэньне Турцыі.

Палітычная дэклярацыя прэзыдэнта Турэцкай Рэспублікі Кэмаля-пашы, прачытаная ім на кангрэсе людовай партыі і прынятая кангрэсам, разьвівае цэлую шырокую праграму нацыянальнага, культурнага і палітычнага адраджэньня Турцыі. Дэклярацыя кажа, што новая Турцыя павінна быць пабудавана на падставе сучаснай эўрапэйскай цывілізацыі і дэмакратычнага і рэспубліканскага ладу.

У асьветнай палітыцы трэба тасаваць сыстэму—нацыянальнай, але зусім сьвецкай школы — адзінага тыпу для ўсяго насяленьня. Далей дэклярацыя сцьвярджае, што галоўная небясьпека для далейшага ўтрыманьня цэльнасьці дзяржавы, гэта — фінансавы крызіс, які трэба перамагчы — суадказнай палітыкай бюджэтнай эканоміі і фінансавых рэформаў. Дэклярацыя ўказывае на вельмі значныя паступы ды пасьпехі краю пад рэспубліканскай уладай — ува ўсіх галінах яго дзяржаўнага жыцьця.

---

— Пабойцеся вы Бога, сусед! Вы-ж, здаецца, нешта такое вінаваты былі жыду. Вось зьвярнулі-б... Даль-Бог, трэба нам трохі аддаць.

Але сусед адказываў:

— А чаму я маю яшчэ аддаваць, калі я яму сваімі рукахі ўсе грошы прынёс да астатняга грошыка? Другі раз буду плаціць, ці што? Вось вы, сусед, другі інтэрас...

— Чаму гэта другі інтэрас, калі якраз той самы, як і ваш? Хутка да ад'езду прыйшоў да мяне Янкель, ды як пачаў прасіць: „аддай, ды аддай, — я і аддаў“.

Млынар ўсё гэта чуў, і ў яго балела сэрца... Эх, які народ! Ні трохі не баяцца Бога! Ну, панове — грамада, пры вас дрэнна нельга палажыць, — якраз забярэце; ды і хто вам дасьць палец у зубы, той чысты дурань!... Не, ужо ад мяне не дачакаецеся... Вы мне гэтак у міску ня плюнеце. Ляпей я сам вам наплюю...

Адна толькі старая Параска прынясла жыдоўцы два дзесяткі яек, ды палавіну навіны, і аддала за некалькі грашэй, што асталася вінавата Янкелю.

— Бяры, нябога, не сярдуй. Засталося за мною яшчэ некалькі, дык аддам, як Бог дасьць. Астатняе і то прынесла.

— Вось подлая баба! — узлаваўся млынар. Учора мне не аддала, а жыдоўцы знайшла. Але-ж і народ! Старым і то верыць ня можна. Хрышчонаму чалавеку не магла аддаць... Пачакай, старая, разьлічуся я з табою пасьля...

Нарэшце пазьбірала Янкеліха сваіх бахуроў, прадала за бэзцэн „бэбэхі“ і водку, якая засталася, — а засталося яе мала. (Янкель хацеў бочку прывязьці з места), ды яшчэ казалі, што Харко нацадзіў сабе з рэштак вядро — другое, — і пацягнулася пехатою з Новай-Каменкі. Бахуры, за ёю... Двух нясла на руках, трэці цягнуўся, схапіўшы падол спадніцы, а двух старшэйшых беглі, падскаківалі...

І зноў скраблі грамадзяне свае патыліцы. У каго яшчэ было сумленьне, дый той думаў сабе: „Каб даць на фурманку за жыдоўскія грошы“... Але вось, бачыце, кожны баяўся: тады ўжо людзі даведаюцца, што яшчэ ён не разьлічыўся з жыдам. А млынар ізноў думаў: „Ну і людзі! Вось гэтак сама і мяне будуць старацца збыць, калі я дам маху“.

Гэтак бедная ўдава пацягнулася ў места, і ўжо Бог ведае, што там з ёю дзеецца. Можа і прыліпла з дзяцьмі да якога небудзь гандлю, а можа ўсе пачэзьлі з голаду. Усё можа быць! А, ў кожным выпадку, жыды свайго не пакінуць. Дрэнна, але-ж дадуць магчымасьць як небудзь пражыць на сьвеце.

Пасьля гэтага пачала грамада радзіцца, хто цяпер у іх, Новай-Каменцы будзе карчмаваць? Бачыце, хоць Янкеля і ня было, а карчма ўсё-ж стаяла на прыгорачку і на дзьвярох засталіся намалёваны белаю хварбаю кварта і бляшаны кручок...

І навет Харко сядзеў сабе на прыгорачку і курыў люльку, чакаючы каго Бог пашле яму ў гаспадары.

Праўда, адзін раз пад вечар, калі грамадзяне стаялі каля пустой карчмы і радзіліся, хто цяпер будзе ў іх карчмарыць,—падышоў да іх бацюшка і, нізенька пакланіўшыся ўсім (грамада — вялікі чалавек, перад грамадой ня грэх кланяцца і бацюшцы), пачаў гутарку аб тым, што было-б добра, каб напісаць прыгавар і зачыніць карчму на векі вечныя. Ен, бацюшка, навет, і паперу сваёй рукою напіша і пашле яе да найасьвячонейшага. І было-б вельмі добра, весела і прыгожа.

Старыя людзі, а за старымі і кабеты, пачалі гутарыць, што бацюшка кажа чыстую праўду, а млынару гэта падалося няпраўдаю, а навет крыўдаю.

„Вось табе і бацька, — падумаў ён злуючы, — вось табе і прыяцель! Але пачакай пан-айцец, што будзе“...

— Гэта такі, бацюшка, ваша праўда, — саладка загаварыў ён, — што ад тае паперы будзе добра... А толькі, я ня ведаю, каму: грамадзе, ці вам. Вы, напрыклад, выбачце мне маё слова! — заўсёды гарэлку прывозіце з места, вам карчма не патрэбная. Але і гэта вам у руку, што сам уладыка будзе чытаць вашу паперу, ды хваліць...

Грамадзяне ўсьміхнуліся сабе ў вусы, а бацюшка з вялікай прыкрасьці толькі плюнуў, нацягнуў саломены капялюш і пашоў ад шынку па вуліцы, быццам і ня быў там.

Але што апавядаць. Я думаю вы і бяз гэтага дагадаліся, што млынар задумаў сам карчмарыць у той жыдоўскай карчме. А пастанавіўшы, пагаварыў добра з грамадою, пачаставаў каго трэба ў земскім судзе, пагутарыў разумна з ісправінікам, потым з казначэем, а пад канец з станавым прыставам і з акцызнікам.

Вярнуўшыся пасьля гэтага ў вёску, пайшоў млынар пад карчму, а там сядзіць Харко і пакурывае люльку. Як толькі млынар матнуў яму галавою, Харко—хоць і ганаровы чалавек, — у той момант скочыў на ногі і прыляцеў да яго.

— Ну, што скажаш? — спытаў у яго млынар.

— А што мне гаварыць? Пачакаю, ці ня скажэце вы чаго-небудзь.

— Але-але!

Не пачынаў ужо цяпер мучыць млынара славамі, а схапіўшы ў дзьве рукі шапку і, выслухаўшы, што яму сказаў Піліп, адказаў разумна:

— Рады старацца для вашай гаспадарскай міласьці!

І пачаў карчмарыць млынар у Нова-Каменцы лепш за Янкеля, пачаў аддаваць на пашу свае карбованцы, а як прыдзе тэрмін,— зьбіраць іх зноў у сваю скрыню, разам з прыплодам. І ніхто ўжо не перашкаджаў яму ў Новай-Каменцы.

А што не разліліся горкія сьлёзы, — ну і гэта праўда. Такі ня мала плакалі: можа ня менш як ад Янкеля, а можа, яшчэ і больш,—гэтага я вам напэўна не скажу. Хто там мерыў мераю людзкое гора, хто пералічыў людзкія сьлёзы...

Ніхто ня мерыў і ня лічыў, а старыя людзі кажуць: ідзе ці ходзіць, на адно выходзіць, што клюкаю, што палкаю—усё карку ня соладка. Ня ведаю, як каму, а мне здаецца, што гэта праўда...

(Далей будзе).

